Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 2 (40)

ЛЮТЫ 1936 г.



МЕНСК — 1936

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 2 (40)

ЛЮТЫ 1936 г.



М Е Н С К — 1 9 3 6

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў Саюза ССР

## № 146

*29-га студзеня 1936 г.*

**Аб справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў на 1936 год**

У дадатак да пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў Саюза ССР ад 22-га жніўня 1933 года „аб справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў“ (З. З. СССР 1933 г. № 54, арт. 317) і ў адмену пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў Саюза ССР ад 7-га снежня 1934 года „аб справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў (З. З. СССР 1934 г. № 63, арт. 453),—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляюць:

1. Зацвердзіць далучаемыя перачні форм перыядычнай справаздачнасці для сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў (гл. дадаткі № 1, 2, 3 і 4) і ўвесці гэтыя формы ў дзейнасць з 1-га студзеня 1936 года;

2. Даручыць Начальніку Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана Саюза ССР зацвердзіць ў 3-х дзённы тэрмін формы справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў, прадугледжаныя ў далучаемых перачнях і выдаць інструкцыі па запаўненню гэтых форм.

3. Абавязаць Советы Народных Камісараў саюзных рэспублік, не маючых краявога і абласнога дзялення, Советы Народных Камісараў аўтаномных рэспублік, краявыя і абласныя выканаўчыя камітэты не пазней 1-га лютага 1936 г. разаслаць сельскім советам і раённым выканаўчым камітэтам абразцы зацверджаных форм справаздачнасці і інструкцыі па іх запаўненню.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта Саюза ССР *М. Калінін.*

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў Саюза ССР *В. Чубар.*

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта Саюза ССР *Акулаў.*

# Пастанова № 221

## Совета Народных Камісараў Саюза ССР

*ад 9-га лютага 1936 года*

**Аб аднаразовым учоце колькасці работнікаў і фондаў заработнай платы**

1. Даручыць ЦУНХУ Дзяржплана СССР правесці на падставе дзейнічаючай бягучай справаздачнасці па труду адначасовы суцэльны ўчот колькасці занятага персанала і фондаў заработнай платы за сакавік 1936 года ва ўсіх дзяржаўных, кааперацыйных і грамадскіх арганізацыях, прадпрыемствах і ўстановах Саюза ССР.

2. Абавязаць усе народныя камісарыяты (акрамя НКАбароны СССР і НКУС СССР—па ваенаслужачым), цэнтральныя ведамствы Саюза ССР, кааперацыйныя і грамадскія арганізацыі і іх мясцовыя органы, а таксама СНК Саюзных і аўтаномных рэспублік, край і обл. выканкомы і падпарадкаваныя ім органы прадставіць у органы ЦУНХУ не пазней 20 лютага 1936 г. складзеныя ў абласным разрэзе спісы непасрэдна падпарадкаваных ім арганізацый, прадпрыемств і ўстаноў і забяспечыць абавязковае прадстаўленне гэтымі арганізацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі ў мясцовыя органы ЦУНХУ ва ўстаноўленыя тэрміны звестак аб колькасці персанала і аб фондзе зарплаты за сакавік месяц 1936 года па формам бягучай справаздачнасці, зацверджаным пастановай СНК Саюза ССР ад 1 кастрычніка 1934 г. № 2360.

Увага: Установы і арганізацыі, для якіх устаноўлены квартальныя справаздачы па працы, звесткі па адначасоваму ўчоту прадстаўляюць за першы квартал 1936 г.

3. Работнікі прадпрыемств і ўстаноў, вінаватыя ў непрадстаўленні ў тэрмін справаздачных звестак па працы за сакавік 1936 года падлягаюць адказнасці па пункту 1-б пастановы ЦВК і СНК СССР ад 27-га лістапада 1933 г. № 82/253.

4. Абавязаць ЦУНХУ Дзяржплана СССР у дзесяцідзённы тэрмін выдаць інструкцыю аб парадку правядзення адначасовага ўчота.

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў Саюза ССР *В. Чубар.*

---

# Пастанова

## Совета Народных Камісараў БССР

*25 лютага 1936 г.* *г. Менск.*

**Аб аднаразовым учоце колькасці работнікаў і фондаў заработнай платы**

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 9/II-1936 г. № 221, Совет Народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Абавязваць усе народныя камісарыяты, цэнтральныя дзяржаўныя, кааперацыйныя і грамадскія ўстановы і арганізацыі (трэсты, аб'яднанні, камітэты і г. д.), уключаючы рэспубліканскія трэсты і арганізацыі саюзнага падпарадкавання, прадставіць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР не пазней 1/III-1936 г. спісы ўсіх падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў.

2. Абавязаць усе раённыя арганізацыі прадставіць раённым інспектурам народна-гаспадарчага ўчота спісы ўсіх падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў не пазней 1/III-1936 г.

3. Абавязаць усе народныя камісарыяты, цэнтральныя дзяржаўныя, кааперацыйныя і грамадскія ўстановы і арганізацыі прадставіць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР, а раённыя выканаўчыя камітэты і гарадскія советы—раённым інспектурам народна-гаспадарчага ўчота звесткі аб колькасці работнікаў і фондах заработнай платы за сакавік 1936 г. па кожнаму з падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў па формах бягучай справаздачнасці, зацверджанай пастановай СНК СССР ад 1/X-1934 г. № 2360.

Увага: Установы і арганізацыі, для якіх устаноўлена квартальная справаздачнасць па працы, звесткі па аднаразоваму ўчоту прадстаўляюць за першы квартал 1936 г.

4. Работнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, вінаватыя ў непрадстаўленні ў тэрмін справаздачных звестак па працы за сакавік 1936 г., падлягаюць адказнасці па арт. 1-б пастановы ЦВК і СНК СССР ад 27/XI-33 г. „Аб адказнасці за прадстаўленне няправільных учотных звестак і справаздачных даных, а таксама за парушэнне форм і тэрмінаў прадстаўлення ўчотна-справаздачных матэрыялаў“ (З. З. СССР 1933 г. № 70, арт. 417).

Старшыня Совета Народных
Камісараў БССР *М. Галадзед.*

Кіраўнік Спраў Совета Народных
Камісараў БССР *Лук'янчык.*

---

## Пастанова № 121

### Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*8-га лютага 1936 года.*

1. Тэрмінам прадстаўлення справаздачнасці па працы сельсоветамі па ф. № 32 лічыць 5 число наступнага за справаздачным кварталам месяца.

2. Сельсоветам накіроўваюць справаздачнасць па працы па ф. № 32 раённаму інспектару Наргасучота. Раённы інспектар Наргасучота не пазней 13-га чысла наступнага за справаздачным месяца складае (на бланку ф. № 32) зводную справаздачнасць па працы па сельсоветам раёна і прадстаўляе яе ў адным экземпляры у Прэзідыум РВК і ў адным экземпляры ў Обл. (край, АССР) УНХУ.

Ва ўвазе да зводкі паказваецца лік учценных сельсоветаў і перачань сельсоветаў, якія не ўвайшлі ў зводку.

Нам. Начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва
Наргасучота Дзяржплана СССР *Папоў.*

---

## Пастанова

### Цэнтральнага Кіраўніцтаа Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*ад 11-га лютага 1936 года*

Аб змене форм №№ 5 і 6 калгаснай і адпаведных форм сельсовецкай і райвыканкомаўскай спецыяльнай справаздачнасці па дogляду за садамі і вінаграднікамі.

Цэнтральнае Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР пастанаўляе:

1. У формах № 5 калгаснай, № 5 сельсовецкай і № 9 райвыканкомаўскай спецыяльнай справаздачнасці „аб летнім доглядзе за садамі і вінаграднікамі“ ў пункце 1-ым „праведзена рыхленне прыствольных кругоў у маладых садах 1-шы раз“ і ў пункце 2-м „праведзена рыхленне прыствольных кругоў у маладых садах у 2-гі раз“ выключыць словы „маладых“.

2. У формах № 6 калгаснай і № 10 райвыканкомаўскай спецыяльнай справаздачнасці„ па догляду за садамі і вінаграднікамі за вясенні перыяд“ у пункце 6-ым раздзела 1-га „праведзена страхванне доўганосікаў, абрызгаванне жалезным купаросам і накладзена лоўчых колец“ выключыць словы „абрызгванне

жалезным купаросам і накладзена лоўчых колец“, а ў пункце 1-м раздзела ІІ-га „праведзена адкрыўка вінаграда і ўстаноўлена кол'еў па плошчы“ выключыць словы „праведзена адкрыўка вінаграда“.

Нам. Начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва
Наргасучота Дзяржплана СССР *Папоў*.

---

## Радыёграма № 548

### Усім Акрза і Райза

**Копія райінспектуры Наргасучота**

*25-га лютага 1936 года*

На аснове распараджэння НКЗема СССР і ЦКНГУ ад 20-га лютага г. г. дайце ўказанне сельсоветам, калгасам па наступным пытанням: па-першае ўчот вывазкі гною формах падрыхтоўкі номер два вясенняга сева номер тры вытвараць не ў тонах, а ў вазох тук Па-другое, у калгаснай сельсовецкай формах падрыхтоўкі номер два пытанням засыпкі насення шматгадовых аднагадовых траў на плошчу га ўчот вытвараць не ў гектарах, а ў цэнтнерах тчк Дэкадных тэлеграмах падрыхтоўкі да вясенняй сяўбы дасылаемых учотна-статыстычнаму аддзелу НКЗема БССР паказвайце шыфрам 29 вывазку гною ў вазох шыфрам 13, 15 засыпку шматгадовых аднагадовых траў у цэнтнерах.

Наркамземляробства *Бенэк*.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота *Владзімірскі*.

---

## Загад № 40

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*ад 16 лютага 1936 года*

За выдаючуюся ініцыятыву ў правядзенні Усесаюзнага перапісу жывёлы на 1/І-1936 г., выдатную пастаноўку перапісу і апрацоўку матэрыялаў яго, прэміраваць:

Па КНГУ Заходняй вобласці:

1. Начальніка КНГУ—т. Васільева—двухмесячным акладам.
2. Начальніка Бюро перапісу жывёлы—т. Азарха—двухмесячным акладам.
3. Кіраўніка групы жывёлагадоўлі—т. Палей—месячным акладам.
4. Інспектара Пінцоўскага р-на—т. Перэдняга—400 руб.
5. Інспектара Бухарынскага р-на—т. Кругсанова—400 р.

Па КНГУ Ленінградскай вобласці:

1. Начальніка КНГУ—т. Серова—двухмесячным акладам.
2. Нач. Бюро перапісу жывёлы—т. Царэву—двухмесячным акладам.
3. Інспектара Ціхвінскага р-на—т. Герасімовіча—400 р.

Па КНГУ БССР:

1. Начальніка КНГУ—т. Владзімірскага—двухмесячным акладам.
2. Нач. Бюро перапісу жывёлы—т. Арцямкова—двухмесячным акладам.
3. Інспектара Сіроцінскага р-на—т. Садоўскага, скончыўшага перапіс па р-ну ў адзін дзень пры высокай якасці матэрыялаў—у суме 700 руб.

Для прэміравання лепшых раённых інспектароў і работнікаў апарата КНГУ вылучыць у распаражэнне:

Начальніка КНГУ Заходняй вобл.—тав. Васільева—2.000 руб.

Начальніка КНГУ БССР—т. Владзімірскага—2.000 р.

Нач. КНГУ Ленінградскай вобл.—т. Серова—2.000 руб.

Нам. Нач. ЦУНХУ
Дзяржплана СССР *Папоў*

---

## Загад № 78

### Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 10 лютага 1936 года*

На нарадзе па будаўніцтву пры ЦК ВКП(б) (10—14/XII-35 г.) адзначана нездавальняючае становішча ўчота капітальнага будаўніцтва і ўказана на неабходнасць карэннага палепшання гэтага ўчота. Адзначаная нарада абавязвае органы ЦУНХУ правесці цэлы комплекс мерапрыемстваў па палепшанню ўчота і павысіць якасць сваіх работ, характарызуючых ітогі капітальнага будаўніцтва ў краіне.

У мэтах лепшага і своечасовага падвядзення вынікаў капітальнага будаўніцтва на 1935 год—загадваю:

1. Райінспектарам і інспектару ўчота будаўніцтва звярнуць асаблівую ўвагу на якасць матэрыяла і паўнату ахопа рэгістрацыяй будаўніцтва.

2. Работу па рэгістрацыі будаўніцтва райінспектарам узяць пад свой непасрэдны нагляд і выкананне і ўвесь паступаючы матэрыял пасля дэталёвай праверкі дасылаць у КНГУ кожныя тры дні, не чакаючы поўнага заканчэння рэгістрацыі.

Сабраныя паведамленні аб калгасным будаўніцтве дасылаць у КНГУ у арыгіналах.

4. Правесці праз РВК, (горсовет) адпаведную пастанову аб правядзенні даабследвання і рэгістрацыі. Копію пастановы даслаць у КНГУ не пазней 20-га лютага бягучага года.

5. Папярэджваю, што тэрмін правядзення даабследвання будаўніцтва, закончанага ў 1935 г. і рэгістрацыі будаўніцтва, пераходзячага на 1936 г., вызначаны маім загадам ад 9/I гг. за № 11 павінен быць безумоўна вытрыман.

6. Усім райінспектарам у раёнах, якіх не ўсё будаўніцтва будзе ахоплена рэгістрацыяй да 1-га сакавіка г. г. і ў якіх у працэсе рэгістрацыі наглядаліся выпадкі ўхілення ад рэгістрацыі, прадставіць мне інфармацыю не пазней 2-га сакавіка г. г. з указаннем: а) колькасці аб'ектаў, падлягаючых рэгістрацыі пасля 1-га сакавіка, б) канкрэтных фактаў ухілення ад рэгістрацыі будаўніцтва і мер, прынятых у адносінах забудоўшчыкаў, ухіляючыхся ад рэгістрацыі.

Улічваючы, што рашэнні партыі і ўрада ў адносінах палепшання ўчота будаўніцтва перш за ўсё датычацца нашай сістэмы і што на падставе гэтага ўсе мы на практыцы павінны паказаць нашу здольнасць выконваць заданні партыі і ўрада, я ўпэўнен, што нашы райінспектары не толькі закончаць рэгістрацыю будаўніцтва ў вызначаны тэрмін, а нават здолеюць у гэты-ж тэрмін і канчаткова аформіць праведзеную работу, г. зн. скласці і зацвердзіць на прэзідыуме РВК раённыя зводкі да 15 сакавіка г. г.

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі*.

---

## Загад № 92

### Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 23 лютага 1936 г.*

Падводзячы вынікі работы раённых інспектур Наргасучота за 1935 г. патрэбна адзначыць, што побач з райінспектурамі, якія на працягу мінулага года паказалі добрую якасць работы (Віцебская, Гомельская, Магілёўская, Кармянская, Уздзенская райінспектуры) маецца рад райінспектур, якія на працягу 1935 г. па якасці работы ішлі пераважна ў 4 і 3 катэгорыі (Асіпавіцкая, Лагойская, Заслаўская, Сенненская, Камарынская, Быхаўская, Бярэзінская і іншыя райінспектуры).

Выходзячы з вышэйпаказанага загадваю:

1. За добрую якасць работы на працягу 1935 г. прэміраваць:

а) раённага інспектара Магілёўскага раёна т. Зумента ў суме 300 р. улічваючы, што Магілёўская райінспектура на працягу 1935 г. 3 месяцы знаходзілася ў 1-ай катэгорыі і 8 месяцаў у 2-ой катэгорыі.

б) ЧВА Узденскага райінспектара тав. Грышука ў суме 250 руб., які дабіўся добрай пастаноўкі работы райінспектуры.



(на працягу 1935 г. райінспектура знаходзілася 8 месяцаў у 2-ой катэгорыі).

2. Адзначыць добрую якасць работы ў 1935 г. наступных райінспектур:

а) Віцебскай (т. Шметар), якая на працягу 1935 г. знаходзілася 5 месяцаў у 1-ай катэгорыі і 5 месяцаў у 2-ой катэгорыі.

б) Гомельская (т. Флеер), якая на працягу 1935 г. знаходзілася 5 месяцаў у 1-ай катэгорыі і 5 месяцаў у 2-ой катэгорыі.

в) Кармянскай (т. Караткевіч), якая на працягу 1935 г. знаходзілася 2 месяцы ў 1-ай катэгорыі і 8 месяцаў у 2-ой катэгорыі.

Улічваючы, што тт. Шметар, Флеер і Караткевіч прэміраваны ў 1935 г. абвяшчаю ім падзяку.

3. За нездавальняючую работу ў 1935 г. паставіць на від раённым інспектарам: Лагойскага раёна—т. Абражэвічу, Заслаўскага раёна—т. Шэўчуку, Сенненскага раёна—т. Камарову, Камарынскага—т. Сакалоўскаму, Быхаўскага—т. Старавойтаву і Бярэзінскага—т. Асіповічу.

Указаць тт. Абражэвічу, Шэўчуку, Камарову, Сакалоўскаму, Старавойтаву і Асіповічу на неабходнасць пералома ў іх рабоце ў 1936 годзе.

4. Улічваючы, што Асіпавіцкая райінспектура на працягу ўсяго 1935 г. была ў 4-ай катэгорыі і сістэматычна зрывала правядзенне цэлага раду работ, раённаму інспектару т. Аксельроду абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі*.

---

## Выпіс

### з пратакола № 5

### аб'яднанага паседжання Совета Народных Камісараў і Эканамічнага Совета БССР

*ад 26-га студзеня 1936 г.*

Разглядалі:

1. Дзяржаўны бюджэт БССР на 1936 г.; унес. НКФінансаў, дакл. тав. Кудзелька.

Пастанавілі:

9. Абавязаць РВК прадугледзіць у сваіх бюджэтах неабходныя сродкі на гаспадарчае абслугоўванне інспектур Наргасучота.

## Усім раённым і гарадскім інспектарам наргасучота.

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 4 жніўня 1934 года аб аднясенні на раённыя і гарадскія бюджэты выдаткаў па гаспадарчаму абслугоўванню інспектур Наргасучота і аплаты займаемых імі памяшканняў, СНК БССР пастановай ад 26 студзеня 1936 г. абавязаў РВК прадугледзіць у сваіх бюджэтах неабходныя сродкі на гаспадарчае абслугоўванне інспектур Наргасучота.

Прапаную дабіцца выканання гэтай пастановы ў вашым раёне і паведаміць мне аб выніках.

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

4 лютага 1936 г.
№ 11

---

КНГУ БССР
10 лютага 1936 г.
№ 11

## Усім райінспектарам Наргасучота

Да гэтага часу райінспектуры Наргасучота ўсе свае распрацоўкі, зводкі, выпіскі са зводак і розныя даведкі рабілі на кавалках паперы, на абрыўках і г. д., што прыдавала нерашлівы від матэрыялам райінспектуры і не давала ёй культурна афармляць усе свае распрацоўкі. Акрамя таго, на вычэрчванне табліц ад рукі райінспектура затрачвае шмат часу.

Для ліквідацыі такога становішча, па распараджэнню ЦУНХУ, райінспектуры забяспечваюцца макетамі распрацовачных табліц з немым „подлежащим и сказуемым“ (4-х розных узораў) з тым, каб гэтыя макеты былі скарыстаны для розных распрацовак, зводак, выбарак і даведак.

Дасылаючы пры гэтым 200 экз. гэтых бланкаў, катэгарычна забараняю райінспектурам складаць свае зводкі, табліцы і лічбовыя даведкі для КНГУ і раённых арганізацый на кавалках і абрыўках паперы і г. д.

Кожная табліца і лічбовая зводка, якія даюцца райінспектурай, павінна быць складзена альбо на спецыяльна дасланым фармуляры, альбо на адным з макетаў, на якім акуратна прастаўляецца загаловак, неабходнае „подлежащее и сказуемое“ і лічбовыя даныя, а ў левым верхнім вуглу абавязкова паказваецца поўная назва інспектуры Наргасучота.

Адказнасць за захаванне дасылаемых бланкаў і за рацыянальнае іх скарыстанне ўскладаю персанальна на райінспектара, якому забараняецца скарыстанне гэтых бланкаў для перапіскі (пісем, заяў, адносін і г. д.).

У выпадку неабходнасці гэтымі бланкамі райінспектар забяспечвае ўчастковых інспектароў.

Калі ў Вас будуць заўвагі па дасланым формам (адносна размера, колькасці граф і г. д.), то просім паведаміць аб гэтым КНГУ БССР (ўчотная інспекцыя) для таго, каб мы маглі ўлічыць Вашы заўвагі пры далейшым друкаванні гэтых матэрыялаў.

Нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

## Раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота

У звязку з тым, што запас пагаспадарчых кніг ф. 2 (для гаспадарак калгаснікаў) цалкам вычарпан і што на мясцах маюцца лішкі кніг ф. 3 (для гаспадарак аднаасобнікаў)—дазваляецца ў выпадку недахопу кніг ф. 2 замяніць іх кнігамі ф. № 3; прычым у гэтым выпадку на вокладках кніг ф. 3 неабходна зрабіць надпіс „для ўчота гаспадарак калгаснікаў".

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

27 лютага 1936 г.
№ 11

---

## Загад

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*31 студзеня 1936 года*

За нядбайныя адносіны да работы ў час перапісу жывёлы, у выніку чаго быў парушан план работы і несвоечасова прадстаўлен у Райінспектуру матэрыял па Забалоцкаму сельсовету, участковаму інспектару Мсціслаўскага раёна т. Ісачкову, Т. А. абвясціць вымову.

Нам. Начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР
*Кацнельсон.*

---

# Выкананне задання аб рэгістрацыі будаўніцтва асобнымі райінспектурамі па становішчу на 1/III 1936 г.

Сваімі ўказаннямі ад 9/XI-35 г., ад 17/XII-35 г. і загадам № 11 ад 9/I-36 г. КНГУ абавязвала ўсе райінспектуры НГУ правесці і закончыць да 1/II г. г. усю падрыхтоўчую работу да правядзення даабследвання і рэгістрацыі буд-ва.

КНГУ прыдавала вялікае значэнне своечасоваму заканчэнню падрыхтоўчых работ (збор паведамленняў ад калгаснікаў і складанне кантрольных спісаў), таму, па-першае, што гэта служыць залогам паспяховага правядзення рэгістрацыі, а па-другое, дае магчымасць устанавіць, што робіцца ў райінспектурах, як наладжан і працуе апарат і наколькі ён гатоў да таго, каб працаваць дакладна, хутка і без перабояў.

Прыходзіцца канстатаваць, што не ўсе райінспектуры выканалі гэта заданне, нажаль, першыя-ж вынікі работы нашых райінспектур у г.г. паказалі, што ўстаноўкі Партыі і Урада па пытанню ўчота будаўніцтва неаднолькава ўспрынята работнікамі нашай сістэмы і што не ўсе пачалі работу па-новаму.

У сувязі з гэтым КНГУ вымушана была звярнуць увагу адпаведнных райінспектур на недапушчальную недацэнку аднаго з важнейшых зараз участкаў работы—ўчота будаўніцтва.

Папярэджваем, што ў далейшым КНГУ не спыніцца перад неабходнасцю прыняць рашучыя меры супроць зрыўшчыкаў нашых заданняў, учот выканання якіх строга вядзецца КНГУ. Акрамя таго, несвоечасовае паступленне патрабуемых матэрыялаў адзавецца і з матэрыяльнага боку на адстаючых райінспектурах. Трэба дабіцца пасля 3-х год бесперарыўнай работы, каб райінспектуры працавалі дакладна, хутка і без перабояў. Інакш ствараецца рэальная пагроза для выканання плана работ у тэрміны, устаноўленыя ЦУНХУ.

Ніжэй даем спіс райінспектароў, якія не прадставілі да 1/III гг. ні кантрольных спісаў, ні паведамленняў ад калгасаў:

1. Асвея
2. Брагін
3. Бягомль
4. Дзяржынск
5. Журавічы
6. Круглае
7. Крупкі
8. Кіраўск
9. Крычаў
10. Лагойск
11. Лепель
12. Парычы
13. Петрыкаў
14. Плешчаніцы
15. Сенна
16. Смалявічы
17. Старобін
18. Уваравічы
19. Узда
20. Цэрахоўка
21. Чаусы
22. Шклоў
23. Менск горад

Ад наступных райінспектароў матэрыял паступіў у вельмі нязначнай калькасці, не даючы магчымасці нават прыблізна ўстанавіць, што падлягае рэгістрацыі ў раёне: 1) Бярэзіна, 2) Ветка, 3) Ветрына, 4) Дрыбін, 5) Капаткевічы, 6) Менскі раён, 7) Орша, 8) Ушачы, 9) Чашнікі.

Сектар са здавальненнем адзначае ўзорны прыклад работы Сіроцінскага інспектара т. Садоўскага, які без ушчэрбу для іншых работ закончыў поўнасцю рэгістрацыю буд-ва значна раней тэрміна—20 лютага і прадставіў КНГУ увесь матэрыял (373 аб'екты, не лічачы зносу) разам з раённай зводкай.

Таксама трэба адзначыць поўнае і своечасовае прадстаўленне кантрольных спісаў і паведамленняў Тураўскім, Жлобінскім і Чэрыкаўскім райінспектарамі і значнай часткі падрыхтоўчых матэрыялаў наступнымі райінспектарамі.

1. Бабруйск
2. Гарадок
3. Дрыса
4. Дуброўна
5. Даманавічы
6. Ельск
7. Камарын
8. Карма
9. Касцюковічы
10. Клімавічы
11. Клічаў
12. Мозыр
13. Нароўля
14. Пухавічы
15. Рагачоў
16. Расоны
17. Свяцілавічы
18. Хоцімск

Вялікая ўвага грамадскасці пытанням будаўніцтва, асабліва пасля апошніх пастаноў Урада і пасля Усесаюзнай нарады па буд-ву пры ЦК ВКП(б), а таксама накоплены вопыт і лепшае фінансаванне павінны прадрашыць поспехі рэгістрацыі. Усе гэтыя акалічнасці разам узятыя, безумоўна, ствараюць асабліва спрыяючыя ўмовы для таго, каб органы НГУ далі краіне ў гэтым годзе поўны і добраякасны матэрыял аб выніках буд-ва 1935 г. ў мінімальныя тэрміны.

Зараз поспех рэгістрацыі залежыць выключна ад працаздольнасці і палітычнага ўзроўня работнікаў сістэмы НГУ.

Пасля таго, як пытанне па ўчоту буд-ва было завострана на нарадзе па будаўніцтву пры ЦК ВКП(б) і на другой Сесіі ЦВК СССР, здаецца, ніякіх аргументаў больш не патрабуецца прыводзіць. Далейшая работа НГУ сама пакажа, як праводзіцца намі ў жыццё рашэнні Партыі і Урада.

Каб наглядна паказаць работу райінспектур па рэгістрацыі буд-ва і як ідзе перабудова ў рабоце, КНГУ дае ніжэй кароткі агляд у цыфрах гадавой работы і выканання задання за студзень і люты гг. па кожнаму раёну. У далейшым такія агляды будуць давацца кожныя 15 дзён, а пачынаючы з красавіка па вынікам правядзення бягучай рэгістрацыі буд-ва 1936 г. штомесячна.

Вельмі пажадана, каб райінспектуры падзяліліся сваім вопытам і метадамі работы, а таксама ўнеслі свае прапановы і адзначылі недахопы ў рабоце КНГУ.

| НАЗВА РАЁНАЎ | Ход гадавой (за 1935 г.) работы райінспектур і паступлення матэрыялаў за студзень і люты 1936 г. па становішчу на 1/III-1936 г. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зарэг. буд-ва (аб'ектаў) на працягу 1935 г. (да 1/I-36 г.) | | Дасл. кантр. спісаў па агр. сектару (б/калгасаў) | Агр. павед. па кал-м у %% да агульн. ліку калгасаў | Выданае пастновы РВК аб рэг. буд-ва | Зарэг. аб'ектаў у студз. і лютым 1936 г. | |
| | Пачатак буд-ва | Законч. буд-ва | | | | Законч. у 1935 г. буд-ва | Перах. на 1936 г. буд-ва |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1. Асіпавічы. | 6 | 1 | дасл. | 100 | — | — | — |
| 2. Асвея . . . | 33 | 15 | — | — | — | — | — |
| 3. Бабруйск . . | 141 | 67 | дасл. | 93 | выдана | 38 | 10 |
| 4. Багушэўск . | 15 | 11 | дасл. | 98 | выдана | 2 | 4 |
| 5. Барысаў . . | 92 | 53 | дасл. | 48 | выдана | 93 | 27 |
| 6. Бешанковічы. | 176 | 89 | дасл. | 100 | выдана | 126 | 78 |
| 7. Брагін. . . | 46 | 12 | — | — | — | — | — |
| 8. Буда-Кашал. . | 72 | 156 | — | 100 | — | 44 | 21 |
| 9. Быхаў. . . | 100 | 85 | дасл. | — | выдана | 99 | 68 |
| 10. Бягомль . . | 2 | 1 | — | — | — | — | — |
| 11. Бялынічы . | 2 | 1 | — | 92 | — | — | — |
| 12. Бярэзіна . . | 45 | 1 | — | 44 | — | 18 | 11 |
| 13. Ветка . . . | 54 | 11 | — | — | — | 39 | — |
| 14. Віцебск . . | 155 | 90 | дасл. | 100 | — | 77 | 55 |
| 15. Ветрына . . | 22 | 10 | — | 21 | — | 12 | 4 |
| 16. Гарадок . . | 78 | 88 | дасл. | 57 | — | 101 | 45 |
| 17. Глуск . . . | 207 | 101 | дасл. | — | — | — | — |
| 18. Гомель . . | 148 | 51 | дасл. | 100 | — | — | — |
| 19. Горкі . . . | 25 | 74 | дасл. | — | выдана | 10 | — |
| 20. Грэск . . . | 41 | 36 | — | 68 | — | 45 | 29 |
| 21. Дрыса. . . | 52 | 2 | дасл. | 40 | — | 1 | — |
| 22. Дуброўна . . | 105 | 72 | дасл. | 99 | — | 110 | 143 |
| 23. Дрыбін . . | 96 | 131 | — | 42 | — | 34 | 6 |
| 24. Дзяржынск . | 58 | 2 | — | — | — | — | — |
| 25. Даманавічы . | 112 | 38 | — | 77 | — | — | — |
| 26. Добруш . . | 45 | 26 | дасл. | — | — | 7 | 1 |
| 27. Ельск . . . | 40 | 11 | — | 88 | выдана | 28 | — |
| 28. Жлобін . . | 139 | 100 | дасл. | 100 | — | 7 | 8 |
| 29. Журавічы . | 24 | 59 | — | — | — | 16 | 1 |
| 30. Жыткавічы . | 31 | 2 | дасл. | — | — | 32 | — |
| 31. Заслаўль . . | 39 | 21 | — | 92 | выдана | 76 | 35 |
| 32. Камарын . . | 132 | 99 | дасл. | 69 | — | 41 | 12 |
| 33. Копыль . . | 128 | 106 | дасл. | 100 | выдана | 77 | 1 |
| 34. Карма. . . | 131 | 110 | дасл. | 93 | — | — | — |
| 35. Касцюковічы. | 123 | 127 | дасл. | 100 | выдана | 162 | 65 |
| 36. Клімавічы . | 38 | 78 | дасл. | 69 | выдана | 13 | 1 |
| 37. Клічаў . . | 44 | 42 | — | 100 | — | — | 5 |

| Назва раёнаў | Ход гадавой (за 1935 г.) работы райінспектур і паступлення матэрыялаў за студзень і люты 1936 г. па становішчу на 1/III-1936 г. Зарэг. буд-ва (аб'ектаў) на працягу 1935 г. (да 1/I-36 г.) Пачатак буд-ва | Закончч. буд-ва | Дасл. кантр. спіcaў па агр. сектару (б/калгасаў) | Атр. павед. па кал-м у % % да агульн. ліку калгасаў | Выданне паст. РВК аб рэг. буд-ва | Зарэг. аб'ектаў у студз. і лютым 1936 г. Законч. у 1935 г. буд-ва | Перах. на 1936 г. буд-ва |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 38. Круглае | 63 | 12 | — | — | — | 23 | 5 |
| 39. Крупкі | 72 | 143 | — | — | — | 9 | — |
| 40. Кіраўск | 20 | 10 | — | — | — | — | — |
| 41. Крычаў | 33 | 43 | — | — | — | 7 | — |
| 42. Капаткевічы | 67 | 58 | — | — | — | — | — |
| 43. Лагойск | 50 | 66 | — | — | — | — | — |
| 44. Лельчыцы | 73 | 42 | дасл. | 96 | — | 1 | — |
| 45. Лепель | 39 | 36 | — | — | — | — | 1 |
| 46. Лоеў | 76 | 103 | дасл. | 95 | выдана | 19 | 43 |
| 47. Любань | 62 | 69 | — | 92 | выдана | 47 | 38 |
| 48. Лёзна | 70 | 47 | — | 97 | — | 34 | 8 |
| 49. Магілёў | 114 | 50 | дасл. | 93 | — | 30 | 14 |
| 50. Мозыр | 153 | 134 | — | 92 | — | 94 | 35 |
| 51. Менск г. | 37 | 34 | — | — | — | 24 | 23 |
| 52. Менск раён | 70 | 40 | — | 45 | — | 24 | 13 |
| 53. Мехаў | 1 | 1 | дасл. | 63 | — | 137 | 51 |
| 54. Мсціслаўль | 45 | 32 | дасл. | 63 | выдана | 9 | 4 |
| 55. Нароўля | 80 | 28 | дасл. | 97 | выдана | — | 12 |
| 56. Орша | 96 | 38 | — | 54 | — | 45 | 62 |
| 57. Парычы | 92 | 39 | — | — | — | 44 | 32 |
| 58. Петрыкаў | 81 | 33 | — | — | — | 9 | — |
| 59. Плешчаніцы | 17 | 4 | — | — | — | — | — |
| 60. Прапойск | 12 | 3 | дасл. | — | — | 18 | — |
| 61. Полацк | 18 | 7 | дасл. | 69 | — | 99 | 35 |
| 62. Пухавічы | 56 | 33 | — | 100 | — | — | — |
| 63. Рагачоў | 324 | 164 | дасл. | 100 | — | 60 | 51 |
| 64. Расоны | 85 | 24 | дасл. | 85 | — | 101 | 30 |
| 65. Рэчыца | 169 | 92 | дасл. | — | — | 4 | — |
| 66. Смілавічы | 191 | 131 | дасл. | 52 | — | 55 | 25 |
| 67. Сенно | 83 | 30 | — | — | — | — | — |
| 68. Сіроціна | 58 | 55 | дасл. | 100 | — | 183 | 142 |
| 69. Слуцк | 115 | 88 | дасл. | 59 | выдана | 24 | 16 |
| 70. Смалявічы | 15 | 5 | — | — | — | 27 | — |
| 71. Ст. Дарогі | 93 | 59 | дасл. | 84 | выдана | 44 | 12 |
| 72. Старобін | 53 | 27 | — | — | — | — | — |
| 73. Свяцілавічы | 47 | 35 | — | 100 | — | 7 | 3 |
| 74. Сураж | 40 | 23 | дасл. | 41 | — | — | — |

| НАЗВА РАЁНАЎ | Ход гадавой (за 1935 г.) работы райінспектур і паступлення матэрыялаў за студзень і люты 1936 г. па становішчу на 1/III-1936 г. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зарэг. буд-ва (аб'ектаў) на працягу 1935 г. (да 1/I-36 г.) | | Дасл. кантр. спісаў па агр. сектару (б/калгасаў) | Атр. павед. па кал-м у %% да агульн. ліку калгасаў | Выданне паст. РВК аб рэг. буд-ва | Зарэг. аб'ектаў у студз. і лютым 1936 г. | |
| | Пачатак буд-ва | Законч. буд-ва | | | | Законч. у 1935 г. буд-ва | Перах. на 1936 г. буд-ва |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 75. Талачын . . | 43 | 11 | — | 99 | — | 91 | — |
| 76. Тураў . . . | 58 | 52 | дасл. | 100 | — | 18 | 7 |
| 77. Уваравічы . | 123 | 35 | — | — | — | — | — |
| 78. Узда . . . | 98 | 69 | — | — | — | 41 | 38 |
| 79. Ушачы . . | — | 5 | — | 82 | выдана | 4 | — |
| 80. Хоцімск . . | 118 | 53 | — | 98 | выдана | 8 | 14 |
| 81. Хойнікі . . | 48 | 63 | дасл. | — | выдана | 48 | 20 |
| 82. Халопенічы . | — | — | дасл. | 97 | — | 70 | 34 |
| 83. Церахоўка . | 24 | 48 | — | — | — | 10 | — |
| 84. Чаусы . . . | 35 | 6 | — | — | выдана | — | — |
| 85. Чачэрск . . | 59 | 56 | дасл. | — | — | 3 | — |
| 86. Чашнікі . . | 113 | 143 | — | 27 | — | 17 | 29 |
| 87. Чырвонаполле | 47 | 25 | — | 80 | — | 23 | 8 |
| 88. Чырв. Слабода | 45 | 29 | дасл. | — | — | 30 | 12 |
| 89. Чэрвень . . | 21 | 16 | дасл. | — | — | 83 | 33 |
| 90. Чэрыкаў . . | 97 | 123 | дасл. | 100 | выдана | 64 | 54 |
| 91. Шклоў . . | 75 | 86 | — | — | — | — | — |

Аддзел учота буд-ва
КНГУ БССР

## Усім раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота

**(Да прадстаячых работа па ўчоту пасеўных плошчаў 1936 г.)**

У 1936 годзе ўся работа па ўчоту пасеўных плошчаў па дадзеным заключнай справаздачнасці будзе праведзена сіламі органаў Наргасучота. Райза ў бягучым годзе не атрымоўваюць у свой адрас дадзеных заключнай справаздачнасці і пагэтаму не складаюць ніякіх зводак.

Забеспячэнне бланкамі заключнай справаздачнасці 1936 г., формы № 4 для калгасаў, соўгасаў, ОРС'аў і іншых гаспадарак дзяржкаапсектара, а таксама формы № 17-а для калгаснікаў, рабочых і служачых ускладаецца выключна на органы Наргасучота.

Мінулагодні опыт паказаў, што поспех работы па ўчоту пасеўных плошчаў у значнай ступені залежыць ад своечасовага яе разгортвання і правільнага размеркавання бланкаў па гаспадаркам і сельсоветам. Недапушчальны выпадкі, меўшыя месца ў 1935 г., безабразнага размеркавання бланкаў заключнай справаздачы, калі ў адны сельсоветы былі накіраваны з вялікім лішкам, а ў другія з значным недахопам. Такое-ж прыкладна становішча наглядалася і па калгасам.

Трэба мець на ўвазе, што ў 1936 г., упершыню ўсе гаспадаркі і сельсоветы матэрыялы заключнай справаздачнасці (ф. № 4 і 17-а) здаюць пасля сканчэння яравога севу толькі ўчастковым інспектарам, у сувязі з чым трэба недапусціць магчымай блытаніны перадачы заключных справаздач „па прывычкэ" асобнымі гаспадаркамі ў Райза.

Асаблівае месца ў рабоце па ўчоту пасеўных плошчаў павінна займаць барацьба з очкаўцірацельствам. Зусім не сакрэт, што некаторыя калгасы і сельсоветы ў 1935 годзе яшчэ да сканчэння сева накіроўвалі заключную справаздачу па сельсовету аб сканчэнні севу на падставе аперацыйнай справаздачы, даючы „авансам" нехапаючую плошчу да плана. Больш таго, некаторыя сельсоветы набраўшыся „смеласці" нават і не ўлічвалі пасеянай плошчы ў час севу, а проста выпісвалі планавыя заданні і падсоўвалі іх як заключную (Бабруйскі, Свяцілавіцкі, Чырвонаслабодскі і інш. раёны).

Пухавіцкае Райза, напрыклад, дало па тэлефону распараджэнне ў сельсоветы аб прадстаўленні заключнай справаздачы

на падставе аперацыйнай справаздачы з уключэннем „авансаў—калі яны ўпэўнены, што засеецца“. Зразумела, што такая ўстаноўка паставіла на шлях „законнага“ очкаўціразцельства. Меліся выпадкі і такога зместа, калі члены сельсоветаў збіралі подпісы пасеўшчыкаў на чыстых бланках, а лічбы выстаўлялі ў сельсовеце, якія ім спадабаліся (Парыцкі раён), альбо наогул не збіралі подпісаў і не правяралі пасеваў у натуры, выстаўляючы планавыя лічбы.

Зразумела, былі выпадкі і адваротнага парадку,—утойванне фактычна засеянай плошчы.

З боку асобных райінспектур наглядаліся выпадкі няўважлівых адносін у час прыёмкі матэрыялаў ад сельсоветаў і пры складанні сельсовецкіх і раённых зводак. Не кажучы ўжо аб няправільным падліку зводак, у якіх было шмат лагічных і тэхнічных памылак, адсутнічанне плана сева па сельсоветам і г. д., але нават былі выпушчаны такія „дробязі“, як азімы клін і пасля здачы матэрыялаў прысылалі „дадаткова знойдзен пасеў азімых“, а некаторыя наогул не знайшлі патрэбным выяўляць прапушчаныя ўчотам пасевы і толькі дзякуючы МГК па ўраджайнасці гэткія былі выяўлены (Петрыкоўскі, Мазырскі раёны). Да аднаго з асноўных недахопаў трэба аднесці адсутнасць аналіза ўлічанай плошчы. Так, напрыклад, азімы клін, як правіла, быў недаўлічан па калгаснікам (уноў уступіўшым у калгасы) і аднаасобнікам. Пры ўважлівай крытыцы матэрыялаў (хацяб проста падзяліўшы, адпаведна катэгорыі гаспадарак, азімы пасеў на колькасць гаспадарак) можна адразу ўстанавіць, па кожнаму сельсовету, размер пасева на адну гаспадарку. Прапойскі раён, каб паказаць выкананне плана сева па аднаасобнікам—паказаў абагуленыя азімыя пасевы калгаснікаў, уступіўшых у калгасы вясной 1935 г., у аднаасобны сектар у той час, калі гэтыя-ж пасевы былі ўжо ўлічаны калгаснікамі, а колькасць гаспадарак аднаасобнікаў паказаў па становішчу на канец сева. У выніку атрымалася, што пасеў азімых на адну аднаасобную гаспадарку ровен 78,0 га (?!).

Апрача гэтага, нядбайнае складанне зводкі па раёну заблытвала складанне рэспубліканскай зводкі. Напрыклад: дзе па форме надрукавана „авёс“—невядома для якой мэты выкрэслівалася і замест аўса надпісвалася „ячмень“, а страка, дзе надрукавана „ячмень“—выкрэслівалася і надпісвалася „авёс“.

Шмат недарэчнасцей было і па сеяным травам.

Можна было-б прывесці яшчэ шмат прыкладаў безабразнай пастаноўкі справы ўчоту пасеўных плошчаў, гэтага важнейшага ўчастка работы—галіны, маючай выключнае значэнне ў народнай гаспадарцы, але дастаткова і прыведзеных прыкладаў, кажучых аб нечуваных парушэннях учотнай дысцыпліны і фармалізме, свядома і несвядома накіраваных некаторымі асобамі на абман дзяржавы.

Такое становішча стварылася ў выніку несур'ёзных, фармальных адносін, а таксама дзякуючы адсутнасці цвёрдага кіраўніцтва і невыканання інструкцыі па ўчоту пасеўных пло-



шчаў з боку многіх Райза і нават некаторых райінспектур НГУ.

Асноўная небяспека ў мінулай і прадстаячай рабоце па ўчоту пасеўных плошчаў—гэта самацёк. Прыклад прошлага года паказаў, што там, дзе райінспектуры, спадзяючыся на Райза, пусцілі работу на самацёк—учот быў правален і вымушаны былі карыстацца неправеранымі (і наогул аперацыйнымі) дадзенымі Райза, альбо зацягнулі складанне зводак аж да пачатку ўборкі.

Маючы велізарны вопыт мінулага года інспектуры павінны ўзорна правесці даручаную Урадам органам Наргасучота работу па ўчоту пасеўных плошчаў, добра ўсвоіўшы, што гэта работа складаная, вялікая і вельмі адказная, патрабуючая да сябе шмат увагі і аперацыйнасці.

Неабходна ўжо зараз пачаць падрыхтоўчыя работы да ўчота пасеўных плошчаў з тым, каб да пачатку сева ўсе матэрыялы былі ў належным стане як-та:

1. Пасеўныя планы па сельсоветам і калгасам.
2. Спісы насельных пунктаў.
3. Аперацыйная справаздача аб азімым севе восені 1935 года.

Для забяспечання высокай якасці матэрыялаў неабходна правесці наступныя мерапрыемствы:

1. Правільна і своечасова размеркаваць бланкі пасеўных плошчаў.

2. Правесці нараду па ўчоту пасеўных плошчаў усіх сакратароў сельсоветаў і рахункаводаў калгасаў.

3. Па магчымасці склікаць нараду старшынь сельсоветаў альбо скарыстаць пленумы і інш. нарады.

4. Правесці сярод насельніцтва растлумачальную работу па гэтаму пытанню.

5. У часе сева праверыць становішча аперацыйнага ўчота аб ходзе сева і вінаватых у очкаўціракельстве прыцягваць да адказнасці.

6. Абавязкова дабіцца такога становішча, каб заключныя справаздачы складаліся выключна на падставе абмераў і кожны ўласнік пасеву (ф. № 17-а) распісаўся аб устаноўленым у яго пасеве.

7. Прыёмку заключных справаздач вытвараць непасрэдна ад калгасаў і сельсоветаў.

8. У час прыёмкі кантраліраваць матэрыял як з лагічнага, так і тэхнічнага боку яго (сярэдні размер пасева на адну гаспадарку калгаснікаў і аднаасобнікаў, правільны падлік яго і г. д.).

9. Прасачыць за тым, каб не было „падтасовак" да плана з боку асобных сельсоветаў.

10. Звярнуць асаблівую ўвагу на пасевы азімых у калгаснікаў (асабліва ўступіўшых у кагасы і не абагуліўшых пасевы) і аднаасобнікаў.

11. Ахапіць учотам пасеўных плошчаў усе гаспадаркі як маючых пасевы, так і не маючых (крытэрый—гаспадаркі па перапісу жывёлы на 1/I-36 г.).

12. Перад прыёмкай матэрыялаў учрайінспектарам пракансульціравацца ў райаграномаў, асабліва па сеяным травам.

13. Дабіцца, каб па агароднім, тэхнічным і іншым групам культур былі дадзены паказчыкі па кожнай культуры.

14. Вынікі ўчоту пасеўных плошчаў па сельсоветах абгаварыць на пленумах ці прэзідыумах сельсоветаў.

15. Работу па ўчоту пасеўных плошчаў праводзіць пад пунктам гледжання праверкі выканання дзяржаўнага плана веснавой сяўбы 1936 г.

16. Зводкі складаць:

а) Лагічна і тэхнічна ўвязаныя.

б) У раённай зводцы адмовіцца ад дзесятых і сотых долей.

17. Асвятляць ход учоту пасеўных плошчаў у мясцовым друку.

18. Скончыць складанне зводак і прадстаўленне ў КНГУ БССР неадкладна пасля скканчэння сева па раёну. Трэба памятаць, што ў ліпені месяцы ўся ўчастковая інспектура будзе занята на вымярэнні ўраджаю на карню.

Толькі пры выкананні пералічаных вышэй умоў нашы органы дадуць Партыі і Ураду своечасова добраякасны матэрыял.

*Сельска-гаспадарчы аддзел КНГУ БССР.*

---

## Раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота

Падвёўшы вынікі праведзенай інспектарамі Наргасучота ў кастрычніку-снежні месяцах 1935 года праверкі становішча ўчота ў сельсоветах і калгасах, Учотная Інспекцыя КНГУ лічыць неабходным адзначыць наступнае:

1. Найбольш поўная праверка становішча ўчота ў сельсоветах і калгасах праведзена наступнымі райінспектурамі: Чэрыкаўскай (праверана 15 сельсоветаў і 87 калгасаў), Смалявіцкай (праверана 10 сельсоветаў і 51 калгас), Ельскай (праверана 9 сельсоветаў і 40 калгасаў), Бабруйскай (праверана 13 сельсоветаў і 84 калгасаў), Лоеўскай (праверана 16 сельсоветаў і 55 калгасаў), Жлобінскай (праверана 21 сельсовет і 80 калгасаў), Лепельскай (праверана 6 сельсоветаў і 79 калгасаў), Мехаўскай (праверана 13 сельсоветаў і 63 калгасы) Чашніцкай (праверана 11 сельсаветаў і 122 калгасы і інш.

Побач з гэтым маецца рад райінспектур, якія зусім не даслалі ў КНГУ актаў праверкі: Ветка, Віцебск, Дрыса, Дуброўна, Заслаўль, Камарын, Крупкі, Капаткевічы, Петрыкаў, Менск, Прапойск, Полацк, Пухавічы, Расоны, Смілавічы, Старобін, Сураж, Уваравічы, Ушачы, Хоцімск, Халопенічы, Чырвонаполле і Шклоў. Недасылка гэтымі райінспектурамі матэрыялаў у КНГУ сведчыць аб недаацэнцы імі справы ўчота ў сельсоветах і калгасах, а таксама аб ігнарыраванні загада Начальніка Кіраўніцтва Наргасучота ад 7 кастрычніка 1935 г. № 470.

2. Добрыя, абстаяцельныя акты праверкі становішча ўчота ў сельсоветах і калгасах складзены наступнымі ўчастковымі інспектарамі: т. Комар (Лагойскіраён), Новікаў (Гомельскі раён), Мельнікаў (Касцюковіцкі раён), Вегера (Церахоўскі раён), Чайко (Кіраўскі раён), Цугаеў (Горацкі раён), Страчылаў (Круглянскі раён), Ажар і Ганчарык (Чэрвеньскіраён), Чэпікаў і Кротаў (Чэрыкаўскі раён), Васькевіч і Назарчук (Ельскі раён), Левін і Колас (Лоеўскага раён).

Аднак маецца рад участковых інспектароў, якія пры праверцы ўчота ў сельсоветах і калгасах абмяжоўваліся складаннем кароткіх актаў агульнага зместу. Так напрыклад: участковы інспектар т. Скрыганаў—Журавіцкага раёна („учот пастаўлен здавальняюча"), т. Астроўскі—Лагойскага раёна („учот знаходзіцца ў спраўнасці), т. Пасконны—Дрыбінскага раёна і Валаткевіч—Сенненскага раёна („учот вядзецца ў калгасе"), т. Онухаў—Чашніцкага раёна („учот вядзецца добра") і інш.

Неабходна гэтым участковым інспектарам у далейшым больш дэталёва правяраць становішча ўчота ў сельсоветах і калгасах, а не абмяжоўвацца фіксацыяй становішча ўчота наогул.

3. Як устаноўлена пры праверцы, галоўнымі недахопамі ў пастаноўцы пярвічнага ўчота ў сельсоветах з'яўляюцца:

а) Неакуратная дасылка сельсоветам заготарганізацыямі (Заготжывёлы, Заготзярно, Сельпо, прыёмныя пункты) копій квітоў і спісаў здатчыкаў, а таксама табеляў дзесятнікамі дарожных работ (Горацкі, Бешанковіцкі, Дзяржынскі, Круглянскі, Чаускі, Тураўскі, Чэрыкаўскі, Кіраўскі, Касцюковіцкі, Гомельскі, Лагойскі, Глускі, Бабруйскі, Любаньскі, Чэрвеньскі і інш. раёны). У выніку гэтага сельсоветы не маюць магчымасці своечасова рабіць разноску ў пагаспадарчыя кнігі выканання насельніцтвам абавязацельстваў.

Раённым і ўчастковым інспектарам неабходна рашуча рэагаваць на ўсе выпадкі недасылкі сельсоветам заготарганізацыямі копій квіткоў і спісаў здатчыкаў і дзесятнікамі дарожных работ—табеляў работ, прыцягваючы вінаватых да суровай адказнасці як у адміністрацыйным, так і судовым парадку.

б) Частая змена сакратароў сельсоветаў (у Бабаўнянскім і Капыльскім сельсоветах Капыльскага раёна, у Лагойскім раёне ў 10 сельсоветах змяніліся 11 сакратароў, у Чырвона-Слабодскім сельсовеце ў 1935 г. змянілася 4 сакратары, у Круглянскім, Чэрвеньскім: Бярэзінскім і інш. раёнах).

в) Адрыў сакратароў ад сваёй непасрэднай работы на выкананне розных кампаній (Любаньскі і інш. раёны).

г) Недахоп некаторых бланкаў пярвічнага ўчота ў паасобных сельсоветах (напрыклад ф. спіса № 4 у некаторых сельсоветах Круглянскага раёна за 1935 г.).

4. У адносіне становішча ўчота ў калгасах пры праверцы выяўлены наступныя галоўнейшыя недахопы:

а) Несвоечасовае забеспячэнне калгасаў з боку Райземаддзела і МТС патрэбнымі кнігамі і бланкамі для вядзення

ўчота (напрыклад: калгасы Чырвоны Сормавец, Новы Мір, памяці Леніна—Кармянскага раёна, калгасы „Пролетарская Перамога", імя 1-га Мая, імя Дзяржынскага і інш. Лагойскага раёна, калгас „Чырвоны Штурмавік" Чачэрскага раёна, калгас імя Варашылава Чэрыкаўскага раёна, некаторыя калгасы Цэрахоўскага раёна і Цялушскай МТС Бабруйскага раёна і інш.).

Раённым і ўчастковым інспектарам неабходна пільна сачыць за своечасовым забеспячэннем Райземаддзелам і МТС калгасаў кнігамі і бланкамі для вядзення ўчота. Аб усіх недахопах у гэтай галіне рашуча рэагаваць на месцы і паведамляць КНГУ для прыняцця належных мер.

б) Слабы нагляд за становішчам учота ў калгасах з боку Райземаддзелаў (Бягомльскі і інш. раёны).

в) адсутнасць рахункаводаў у калгасах (к-с „Палеская Праўда" Гомельскага раёна, к-с імя Галадзеда Чэрыкаўскага раёна, к-с імя Тэльмана Ельскага раёна, к-с „Чырвоны Прамень" Нараўлянскага раёна і інш.).

У цэлым радзе калгасаў выяўлена, што працоўныя кніжкі калгаснікаў вядуцца неакуратна і вядуцца не брыгадзірамі, а рахункаводамі (напр. у калгасах Лагойскага і інш. раёнаў); таксама маюцца выпадкі калі маёмасць і інвентар не замацаваны за брыгадзірамі (калгасы імя Дзяржынскага, Перамога і інш. Лагойскага раёна і інш).

Асабліва нездавальняючае становішча ўчота наглядаецца ў калгасах Чашніцкага раёна (з 122 правераных калгасаў у 56 калгасах учот пастаўлен дрэнна) Такое становішча з'яўляецца зусім недапушчальным. Райінспектару Чашніцкага раёна неабходна рашуча паставіць перад кіруючымі органамі раёна пытанне аб прыняцці належных мер да палепшання справы ўчота ў калгасах.

Улічваючы надзвычайную важнасць правільнай пастаноўкі ўчота ў сельсоветах і калгасах, неабходна ўсім раённым і ўчастковым інспектарам звярнуць асаблівую ўвагу на гэтую галіну работы, наладзіць сістэматычную праверку ўчота ў сельсоветах і калгасах, аказваючы работнікам сельсоветаў і рахункаводам калгасаў канкрэтную дапамогу ў наладжванні ўчота і прымаючы ўсе належныя меры да таго, каб учот у сельсоветах і калгасах раёна быў пастаўлен добра.

*Учотная інспекцыя КНГУ БССР.*

---

